УДК 821.161.3-1
ББК 64(4Беи)-5
С11

*Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў».*
*Выпуск 26.*
*Заснаваная ў 2006 годзе.*

**Сцяпан, У.**
С11 Папяровая шапка : хайку / Уладзімір Сцяпан. — Мінск : Кнігазбор, 2018. — 64 с. — (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 26).
ISBN 978-985-7207-49-7.

Зборнік Уладзіміра Сцяпана — кароткія паэтычныя тэлеграмы з трох радкоў. Яны — як фотаздымкі, якія фіксуюць розныя моманты жыцця. Кожны верш з сямнаццаці складоў – спроба знайсці паэзію ў самым звычайным і будзённым.

На мокрым акне
стаўлю подпіс. Быццам сам
парк намаляваў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7207-49-7**

# ВЯСНА

* * *

Новае лісце
лічыць не пералічыць
начному дажджу.

* * *

Звоніць тэлефон
ноччу. Першая думка —
каб жа памылка...

* * *

Вялікдзень. Муха
уваскрэсла. Паўзе
па чыстай шыбе.

* * *

Вішня зацвіла.
Там, на сонечным баку
новых могілак.

* * *

Дзве прадавачкі
манекен распранулі.
Вясновы вечар.

* * *

Хутка зацвіце
акацыя белая...
Ля школы сляпых.

* * *

Дзве вішні побач.
На адной мора кветак,
на другой — адна.

* * *

*Жонка*

Было так ціха...
Я заснуў у парку на
яе каленях...

* * *

Разам з унукам
дзед у новы дом носіць
старыя рэчы.

* * *

Вясновы вечар.
Рамантуюць машыну
шафёр і святар.

* * *

Некалі рабіў
з пялёсткаў шыпшыны
і я пазногці...

* * *

У штабель склалі
старую бярозу... А
шпакоўню куды?

* * *

На мокрым акне
стаўлю подпіс. Быццам сам
намаляваў парк.

* * *

Падумаў, зноў снег...
Не — цукар на прыступках
нехта рассыпаў...

* * *

Іду праспектам,
чарвякоў абмінаю...
Красавіцкі дождж.

* * *

На падваконні
муха танчыць на спіне
красавіцкі брэйк.

* * *

Неба такое,
быццам анёлы яго
намалявалі.

* * *

Учора сустрэў
у пад'ездзе саначкі...
Усміхнуўся.

* * *

Сонечны ранак.
Пакуль згатую каву,
памераю ціск.

* * *

Глядзіць у вакно
наш шэры каток. Быццам
сабраўся збегчы.

* * *

У куце двара
ціха дажывае век
гурбачка снегу.

* * *

Школьны настаўнік,
хіба не прагульваў сам
літаратуру?

* * *

Так і спіць дачка
з мабільнікам у руцэ.
Пераходны ўзрост.

* * *

Сёння спыніў
мяне ў парку дзіцячым
чарвяк земляны.

* * *

На сонечны бок
старога дома выйшла
пара падушак.

* * *

Аблокі нагадваюць
бэз кучаравы, ці бэз
нагадаў мне аблокі?

* * *

Проста на пляцы
букет бэзу наламаў
жабрак жабрачцы.

* * *

Раптоўны вецер
задзярэ спадніцы...
і супакоіцца.

* * *

Учора ў снезе,
а сёння ў вадзе стаяць
таполі ў парку.

* * *

У вокнах школы
плылі аблокі. Дзеці
праз іх глядзелі.

* * *

На чыстай сцежцы
леташні танцуе ліст.
Вясновы вецер.

* * *

Сёмага. Вечар.
П'яныя цёткі вязуць
цюльпаны дамоў.

* * *

*Ранішняя кавярня*

Лыжачкай каву
каштуе мужчына, бо
побач нікога.

* * *

Цяжка паверыць,
што пяшчотная кветка
яблыкам будзе.

* * *

Злавіў чмяля
скрыначкай ад запалак.
Ранішні клопат.

* * *

Кот ідзе праз двор.
Кошка прылізвае поўсць,
пазірае ўслед.

# ЛЕТА

* * *

Здаецца, ўчора
папяровую шапку
бацька майстраваў...

* * *

Гарачы пясок,
прахалодная вада —
як мала трэба.

* * *

Яшчэ й не стары,
а маленькі кручок ледзь
прывязаў... Сумна.

* * *

Да блізкай ракі
пад ціхім дажджом іду
з вудаю новай.

* * *

Жабку спалохаў.
Скочыла і паплыла
у чыстай вадзе.

* * *

Як пахне шчасцем
зялёнага аеру
зламаны лісцік.

* * *

Не горшы занятак —
зялёны гарох лушчыць
цёплым вечарам.

* * *

Ліпеньскі ранак.
Бесклапотна думаю
пра бессмяротнасць.

* * *

Апошні чарвяк,
а я ўсё спадзяюся —
вось пашанцуе.

* * *

Скрыпень красуе
там, дзе летась згарэла
суседка ў хаце.

* * *

Першы дзень жніўня.
З вудай іду да ракі,
як і заўчора.

* * *

Разам з яшчаркай
на ганку свайго дома
адпачываем.

* * *

Трымаю ў руцэ
і адчуваю — б'ецца
плотачкі сэрца.

* * *

З дачкой пад мостам
імклівых малькоў ловім
дзедавай кепкай.

* * *

Камарыны звон,
п'яная лаянка, смех —
вясковы матыў.

* * *

Куды ж ты бяжыш,
вірлівая яшчарка,
па пыльнай шашы?

* * *

Ёсць і такія,
хто ніколі не піў
ваду з крыніцы.

* * *

Жыцця не хопіць
расказаць... Пра малую
раку — Вушачку.

* * *

Бягу пад дажджом  
у новай шапцы. Бацька  
зрабіў з газеты.

* * *

Стаю пад ліпай.  
Вакол тапалёвы пух  
танцуе ціха...

* * *

Дождж... Пры дарозе  
маліну мокрую ем —  
несалодкую.

* * *

Птушкі абжылі
дом недабудаваны.
Гнёзд наляпілі.

* * *

Над пустым вядром
порхае белы мятлік.
Спякотны вецер.

* * *

Рыбак яшчэ спіць.
А чапля ў тумане
ляціць да ракі.

* * *

Станцыя «Ліпа».
Пахне скошанай травой
нават сіні дым.

* * *

Вочы заплюшчыў —
пах лістоты ў пакоі,
вецер за вакном.

* * *

Лесвіца. Дзверы.
Доўга стаю. Слухаю.
Жонка спявае.

* * *

Прачынаюся...
Сад вачыма яблыкаў
на мяне глядзіць.

* * *

Новыя дровы
носіць у пуню сусед...
На неба глядзіць.

* * *

Стары і малы
па мокрым пяску дарогі
прайшлі да ракі.

* * *

Па сваіх слядах,
вяртаюся з возера.
Сонечны ранак.

* * *

Бацька сустрэў
мокрай травой, чарачкай —
дажджу на донцы.

* * *

Сусед праз туман
поўныя вёдры нясе
белых яблыкаў.

* * *

Спякотны жнівень.
Раса халаднейшая
за ваду ў рацэ.

* * *

У мокрай траве,
пад яблыняй ападкі...
Зорнае неба.

* * *

Неверагодна...
З гэтым вялізным дубам
мы — аднагодкі.

* * *

У ягадніку
змяя варухнулася...
Сунічны водар.

* * *

Ледзь чутна, праз раз,
тахкае сэрца драўлянае
кінутай хаты.

* * *

Дружа-павучок,
тут цябе кошка схопіць.
Бяжы за шафу.

* * *

Так ціха сядзіць
голуб на падваконні...
Як першакласнік.

* * *

Бліскучы месяц,
не табе раўняцца
з малочным зубам.

* * *

Вясковы сваяк
ды чорны чмялёк — могуць
а шостай будзіць.

* * *

Нехта пакінуў
вядро з вадой ля сцяны
у сухой траве.

* * *

Чуйны дзьмухавец
вартуе ветру сон
у чыстым полі.

* * *

Не магу заснуць —
на камара палюю
беспаспяхова.

* * *

Б’юцца, як людзі,
маладыя вераб’і —
без дай прычыны.

* * *

Бяжыць насустрач
залаты на тле неба
крыж пры дарозе.

* * *

Як на спатканне,
да нябачнай рачулкі
іду праз туман.

* * *

Балкон прычыніў —
дождж стаіць у парозе,
празрысты, як цень.

* * *

Жнівеньская ноч.
Яблык баіцца падаць —
такая ціша.

# ВОСЕНЬ

* * *

Нават памыты,
восеньскім дымам пахне
яблык вясковы.

* * *

З самага рання
вецер гартае дрэвы...
Справа налева.

* * *

Кропля за кропляй...
падае як у траву
дождж на валасы.

* * *

Над мокрай травой
мятлік белы пырхае...
Як бессмяротны.

* * *

Зноў правярае
мама стары будзільнік,
каб не спяшаўся.

* * *

Тры дні думаю
пра чорную змяю і
ногі босыя.

* * *

Мама старая,
як лес. Думае саваё,
шэпча: «Хутчэй бы снег».

* * *

Які ж ты худы,
клён, распрануты ветрам...
Пра лета марыш?

* * *

*Вагон метро. У суседа блямкнуў мабільнік*

Мужчына шэптам:
«Жывы я, жывы, мама.
Голас як голас...»

* * *

Адчыняюцца,
зачыняюцца дзверы...
вагонаў пустых.

* * *

*Ноч*

Сорак пяць секунд
(пакуль гарыць запалка) —
бачыў бацьку.

* * *

Прыцемкі. Восень.
Вогненнай вежай стаіць
ліпа на ўзлеску.

* * *

Стары, стары дом...
Сцёрся блакітны нумар,
ведаю: сёмы.

* * *

Як тая старасць,
па нябачнай нітачцы
павучок ідзе.

* * *

Зноў мне шанцуе...
Сёння знайшоў на плошчы
жэтон на метро.

* * *

Божа, навошта
Табе столькі крыжоў?
Маўклівы вечар.

* * *

Радасны голас
з вуліцы вецер прынёс —
голас дзіцяці.

* * *

Галіну крануў —
падае ліст зялёны
на чорны асфальт.

* * *

Светлы золкі дзень.
Кропляй іртуці дрыжыць
сонца ў гардзіне.

* * *

Полымя-лісцік
з кноту галіны ляціць
у восеньскі змрок.

* * *

Доўга прымерваў
руды, вялікі шынель...
Сябе ледзь пазнаў.

* * *

Адшчыкнуў яблык
і падумаў: «Навошта?..
Я ж не галодны...»

* * *

У шафе старой
плечыкам голым лёгка,
вольна і сумна.

* * *

Штоміг living рознае —
звыкнуцца немагчыма...
О неба, неба!

* * *

Крышыць галубам
і сам есць чэрствы хлеб
жабрак пануры.

* * *

Іржавы замок,
ад каго разбураны
дом ахоўваеш?

* * *

Мама, як анёл,
амаль бязважкай стала,
ходзіць бязгучна.

* * *

Нечаканы дождж...
Гандляр-маладзён спехам
кніжкі хавае.

* * *

Хто ж за туманам?
Сабака ці чалавек?
Ціха сыходжу.

* * *

На ціхай рацэ
толькі з ім добра вудзіць —
ён глуханямы.

* * *

Зусім бязмэтна —
пазіраю на зоры
незлічоныя.

* * *

У рамцы за шклом
пажаўцелыя карткі —
сорак чатыры.

* * *

Восень як лета...
Суседка спяшаецца —
вяжа шкарпэткі.

* * *

Зноў не стрымаўся —
падняў са сцежкі каштан...
Зусім маленькі.

* * *

З Гародні ў Менск
прыехала ў кішэні
пара каштанаў.

* * *

Ляжу на траве.
Заплаканае неба
глядзіць на мяне.

* * *

Сем хлябоў прынёс
у вёску з крамы пастух.
І ўсім хапіла.

* * *

Год не растае
на тваіх далонях снег.
Леташні здымак.

* * *

А вам не шкада,
што хутка не будзе
белага снегу?

* * *

Надпіс на снезе:
«Ян плюс Віця любоў!»
Страла ў сэрца.

* * *

Явар чырвоны
убачыў бы першы снег,
калі б не вецер.

* * *

Зноў сустрэў яе,
з кошыкам жоўтых сліваў
да бальніцы йшла.

* * *

Па лесвіцы збег
ліст у абдымках ветру,
насустрач зіме.

* * *

Жоўтыя зоры
на чорнай вадзе ляжаць --
з клёнаў упалі.

* * *

Альховы лісток
страказу перавозіць
на той бок ракі.

* * *

Клёны ды ліпы...
Аддзіраю з падэшваў...
мокрае лісце.

* * *

Зноў з крыжа на крыж
пералятае птушка.
І не сумуе.

* * *

Празрысты ручай.
Па-над восеньскім лісцем
рыбкі як птушкі.

* * *

Нібыта змяя
ў новай скуры залатой —
сцежка пад лісцем.

# ЗІМА

* * *

Калядная ноч.
Няспешна есць цукерку
Салдат-вартавы.

* * *

Лепшыя радкі
нараджаюцца ў снах... і
забываюцца.

* * *

Ушчэнт разбіўся
мой маленькі анёлак
парцалянавы.

* * *

Студзеньскай ноччу
ссівела Свіслач-рака...
Быццам жанчына.

* * *

Ціха ляціць снег.
І робіць калючы дрот —
упрыгожваннем.

* * *

Хоць і не медаль —
гузік пазелянелы...
А я берагу.

* * *

Гляджу вечарамі
на камень і ракаўку,
што з мора прывёз.

* * *

Ліхтар згасае —
ярчэе поўні кола
на голым дрэве.

* * *

Хвалі завеі
след падхапілі белы —
след на дарозе.

* * *

Суцешыць вецер
голае дрэва зімой —
снегам засыпле.

* * *

Белыя хмары
над чорнымі дрэвамі
стаяць, як горы.

* * *

Цёмна ў пакоі.
Падае, падае снег
на суседні дах.

* * *

Чаму мне? Кінуў
папяровую ружу
вецер пад ногі.

* * *

Стары сабака
з бліскучай лужыны п’е
учарашні дождж.

* * *

Як хутка бягуць
у пральнай машыне
нашы красоўкі.

* * *

У садзе начным
на голым галлі вісяць
тысячы зорак.

* * *

Трава на лузе
да кораня замерзла.
Храбусціць, як шкло.

* * *

Шчарбатым плотам
усміхнулася хата
першаму снегу.

* * *

Як хутка расце
сівая-сівая шчэць...
Сёння заўважыў.

* * *

Аб чым так вые
у кватэры кінуты
стары сабака?

* * *

Каляным лісцем
дубы перашэптваюцца —
быццам моляцца.

* * *

Чыста ў пад’ездзе:
ніхто не курыць «Прыму».
Памёр мой сусед.

* * *

Падняў са снегу
мёрзлую арабіну —
быццам багоўку.

# Змест

**Лета**

**Восень**

**Зіма**

## Сцісла пра аўтара

Уладзімір Сцяпан (Сцепаненка Уладзімір Аляксандравіч) нарадзіўся 22 студзеня 1958 года ў гарадскім пасёлку Касцюкоўка (сёння раён Гомеля). Скончыў мастацкае вучылішча імя Глебава і тэатральна-мастацкі інстытут у Мінску. Працаваў мастаком, рэдактарам на тэлебачанні, журналістам. Аўтар кніг прозы «Вежа», «Сам на-сам», «Адна капейка», «Настаўнік. Сяргей Пятровіч Каткоў». Піша апавяданні, аповесці, вершы, кінасцэнарыі, п’есы, вядзе старонку ў фэйсбуку.

## *У серыі «Бібліятэчка часопіса “Дзеяслоў”» выйшлі кнігі:*

*1. Анатоль Івашчанка. «Вершпіск».*
*2. Васіль Быкаў. «Бліндаж».*
*3. Усевалад Сцебурака. «Крушня».*
*4. Сяргей Дубавец. «Вершы».*
*5. Анатоль Кудравец. «За дальнім прычалам».*
*6. Леанід Дранько-Майсюк. «Цацачная крама».*
*7. Сяргей Прылуцкі. «Дзевяностыя forever».*
*8. Таццяна Сапач. «Няхай не пакіне нас Восень».*
*9. Галіна Дубянецкая. «Анадыямэна».*
*10. Віктар Шалкевіч. «Блюз Вясна».*
*11. Вершы-прысьвячэньні Анатолю Сысу «Ягамосьць».*
*12. Ніл Гілевіч. «Замова ад страху».*
*13. Дзмітры Плакс. «Трыццаць тэкстаў».*
*14. Аляксандар Л. «Зкімбы-зымбы». Кніга люстрацыяў.*
*15. Наталля Русецкая. «Каштаны ў кішэнях».*
*16. Людміла Рублеўская. «З’яўленне Інфанты».*
*17. Леанід Галубовіч. «Поўня». Выбранае.*
*18. Валянціна Аксак. «Дзікая сліва».*
*19. Міхась Скобла. «Камізэлька для месяца».*
*20. Іна Снарская. «Вогнепаклонніца».*
*21. Уладзімір Някляеў. «На ўсякім свеце».*
*22. Віктар Казько. «Казань пра ката, каторы смяяўся».*
*23. Уладзімер Арлоў. «Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань».*
*24. Игорь Шкляревский. «Ожерелье сушёных грибов».*
*25. Андрэй Федарэнка. «Сузіральнік».*

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў».
Выпуск 26

**Уладзімір Сцяпан**

**Папяровая шапка**

*Хайку*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Усевалад Сцебурака*
Мастак *Генадзь Мацур*
Вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 28.12.2018. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 3,36.
Ул.-выд. арк. 0,98. Наклад 200 ас. Зак. 535.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.